664_632.qxd 5/30/2021 4:07 AM Page 1 (3,1)


# Весткі й Паведамленьні

**інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

**Viestki j Paviedamleńni**

**№ 6(664)**
**Чэрвень 2021 г.**



Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*


# Мітынг за вызваленьне палітвязьняў

У нядзелю, 9 траўня, на Мангэтане адбыўся мітынг за вызваленьне ўсіх палітвязьняў у Беларусі, колькасьць якіх працягвае расьці кожны дзень. Мітынг быў арганізаваны супольна Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем “Пагоня” і Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем. У мітынгу ўзялі ўдзел людзі з розных штатаў ЗША, якія трымалі ў руках лёзунгі за вызваленьне палітвязьняў і плякаты з іх імёнамі.

*заканчэньне на бачыне 2*




# Аб пазыцыях



Ёсьць некалькі пазыцыяў адпрэчваньня газпрамаўска-эфэсбоўскай палітыкі захопу ўлады ў Беларусі.

Першае – гэта пазыцыя беларускіх нацыянальна-вызвольных сілаў (КХП-БНФ, БНС “Вольная Беларусь” і інш.), якая была дакладна заяўлена і прадэманстравана ў чэрвені мінулага году.

Другая – гэта наўпростая пазыцыя лукашысцкага рэжыму, які зразумеў задуму і тактыку Крамля і ажыцьцявіў радыкальныя захады (нерэгістрацыя прамаскоўскіх кандыдатаў, арышты па крымінальнай справе і інш.).

Трэцяя галіна, дакладней, падгаліна крытыкі – гэта працяг пазыцыі ўлады праз падстаўных асобаў пад выглядам нібыта незалежнай дэмакратычнай арганізацыі (Ю. Васкрасенскі і інш.). Улада ня хоча наўпрост палемізаваць з Крамлём у непрыняцьці маскоўскіх крэатураў і пераклала частку гэтай задачы на завербаваных службовых асобаў.

Чацьвёртая пазыцыя крытыкі – маргінальная, часта з удзелам агентуры, рускаарыентаваных і незадаволеных усім.

Характэрнасьцю маргінальнай “крытыкі” зьяўляецца тое, што маргіналы гэтак жа, як і аб’екты іхняя крытыкі (у асобах Ціханоўскай, Бабарыкі, Латушкі, Цапкалы і г. д.) і гэтак жа, як лукашысты, цалкам замоўчваюць зьяву, гістарычныя заваёвы і дзейнасьць беларускіх нацыянальна-вызвольных сілаў, Беларускага “Адраджэньня”, Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне”, здабыцьцё незалежнасьці Беларусі і г. д.

Беларускаму нацыянальна-вызвольнаму змаганьню за вольную Беларусь цяпер супрацьстаяць дзьве варожыя палітычныя сілы: прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі і ягоная газпрамаўска-эфэсбоўская апазыцыя. Гэтыя дзьве чужыя беларускім нацыянальным інтарэсам пазыцыі змагаюцца за ўладу над беларусамі, справакавалі і выклікалі рэпрэсіі, катаваньні людзей, зьнішчэньне грамадзянскай супольнасьці, культуры і хвалю генацыду супраць народу Беларусі.

Свабода і нацыянальная палітычная будучыня краіны стаіць за беларускім нацыянальна-вызвольным рухам.

*15 травень 2021 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

664_632.qxd 5/30/2021 4:08 AM Page 3 (1,1)



# Мітынг за вызваленьне палітвязьняў

***заканчэньне з бачыны 1***




Напачатку мітынгу перад прысутнымі выступіў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка, які прывітаў прысутных і падзякаваў за ўдзел. Далей ён адзначыў, што рэжым у Беларусі карыстае з любой нагоды, каб пашыраць страх і паніку сярод насельніцтва, каб запабегчы любой формы пратэсту супраць ужо амаль 27-гадовага панаваньня антынацыянальнага аўтарытарнага рэжыму, што набывае ўсё больш рысаў рэжыму таталітарнага. Даходзіць да абсурдных выпадкаў, калі людзей затрымліваюць за любыя спалучэньні, часам выпадковыя, белых і чырвоных колераў у адзеньні й побытавых рэчах. Беларускія нацыянальныя колеры забараняюцца і абвяшчаюцца “нацыстоўскімі”, насуперак меркаваньням экспэртаў-гісторыкаў на першы плян выходзяць прапагандысты рэжыму, што высоўваюць бізарныя абвінавачаньні супраць беларускіх нацыянальных сымболяў. Мэта ўсяго гэтага відавочная – запалохаць людзей, не дапусьціць новага ўздыму пратэстных настрояў у грамадстве, якое ўжо амаль хутка будзе год як узьнялося супраць панаваньня рэжыму. Беларусы Амэрыкі мусяць дапамагаць і дапамагаюць сваім братам і сёстрам на Бацькаўшчыне, і трэба вызначыць, як рабіць гэта ў найбольш эфэктоўны спосаб.

Затым слова ўзяў старшыня Нью-Ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Сяргей Кудзеліч. Ён адзначыў, што беларусы Нью-Ёрку і ЗША мусяць узьняць свой голас у абарону палітзьняволеных у Беларусі і рабіць усё магчымае, каб спрыяць вызваленьню палітзьняволеных, людзей якіх рэжым Лукашэнкі несправядліва кінуў за краты і асудзіў па прыдуманых прэтэкстах. Дзеля найбольш эфэктоўнага супраціву ў справе перасьледу рэжымам сваіх грамадзянаў беларусы паўсюль, і ў краіне і на чужыне, а ў тым ліку і ў Амэрыцы, мусяць яднацца, каардынаваць свае дзеяньні і ўзмацняць салідарнасьць.

Перад прысутнымі таксама выступіла сп-ня Аксана Стэфэнс, сястра выкрадзенага ў Маскве і перавезенага ў Менск юрыста і палітычнага дзеяча сп. Юрася Зянковіча, які цяпер зьяўляецца адным з палітзьняволеных у Беларусі. Яна адзначыла, што яе брат быў незаконна арыштаваны расейскай службай ФСБ й перададзены беларускаму КГБ, і гэта паказвае, як два аўтарытарныя рэжымы падтрымліваюць адзін аднаго. Прамоўца таксама распавяла пра свае захады ў абароне палітзьняволеных і таксама яе брата, імя якога было на плякатах, якія трымалі ўдзельнікі мітынгу, і падзякавала прысутным за падтрымку і неабыякавасьць.

Затым слова ўзяў доктар-псыхіятар і мэдыйны экспэрт адносна падзеяў у Беларусі, сп. Дзьмітры Шчыгельскі. Ён прааналізаваў падзеі апошняга часу ў Беларусі і падкрэсьліў, што рэжым узмацняе рэпрэсіі й зачышчае прастору ад кожнай, нават уяўнай, праявы пратэстных настрояў. Цяпер, на спадзе пратэстных настрояў, рэжым адрасна рэагуе на кожную акцыю, кожны крок апанэнтаў, чаго не было і фызычна не ўяўлялася магчымым пры большай актыўнасьці народу. І менавіта ў гэтым палягае сакрэт перамогі – удзел як мага большага ліку людзей у палітычных працэсах, пашырэньне інфармацыі пра гвалты і парушэньні, якія зьдзяйсьняе рэжым Лукашэнкі. Прамоўца таксама заклікаў усіх прысутных працаваць праз сваіх кангрэсмэнаў і сэнатараў па інфармаваньні амэрыканскай грамадзкасьці аб становішчы і парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі.

Прысутныя раздавалі ўлёткі мінакам, выгукалі лёзунгі супраць рэжыму Лукашэнкі й у падтрымку вызваленьня ўсіх палітзьняволеных у Беларусі.

***Віталь ЗАЙКА***

# Беларускі пікнік у Цэнтральным парку

У нядзелю, 23 траўня 2021 году, беларусы Нью-Ёрку правялі сяброўскі пікнік, на які сабраліся людзі ня толькі зь Нью-Ёрку, але і з іншых штатаў, у тым ліку з Каліфорніі.

Напачатку старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка распавёў пра трагічную сьмерць беларускага патрыёта і грамадзкага актывіста зь Лідчыны Вітольда Ашурка, які быў несправядліва засуджаны на 5 год зьняволеньня і памёр, па афіцыйнай вэрсіі ўладаў, ад “спыненьня сэрца”, хоць меў выдатнае здароўе і ня меў ніякіх праблемаў з сэрцам. Сьмерць Вітольда Ашурка мусіць быць неадкладна расьсьледавана незалежнымі мэдычнымі экспэртамі. Рэжым Лукашэнкі ўзмацняе рэпрэсіі, спрабуе зьнішчыць кожнага нязгоднага з амаль 27-гадовым гватоўным панаваньнем, але на месца загінуўшых будуць падымацца новыя героі. І Вітольд Ашурак быў менавіта адным з такіх герояў. “Справа, за якую аддаў жыцьцё Вітольд Ашурак, пераможа, і ягонае імя будзе належна ўшанаванае ў новай, вольнай Беларусі”.

Потым выступіла Надзея Нортан з Сан-Францыска і паінфармавала прысутных пра стварэньне новай беларускай арганізацыі: Асацыяцыі Беларусаў Амэрыкі (АБА). Яна распавяла пра мэты і прынцыпы арганізацыі, што яна ўлучае суполкі з шэрагу штатаў ЗША і мае каардынаваць і яднаць дзейнасьць усіх ужо існуючых беларускіх арганізацыяў Амэрыкі. Таксама сярод мэтаў – пашырэньне інфармацыі пра беларуска-амэрыканскую грамаду, прадстаўленьне яе інтарэсаў перад народам і ўрадам Злучаных Штатаў, спрыяньне захаваньню беларускай мовы, культуры і традыцыяў і дапамога Беларусі ў здабыцьці сапраўднай незалежнасьці, свабоды і дэмакратыі. Ужо прайшло некалькі акцыяў і імпрэзаў пад эгідаю АБА, сярод якіх “Падарожжа БЧБ-сьцягу”, своеасаблівая эстафэта перадачы сьцяга па беларускіх суполках Амэрыкі, ад заходняга да ўсходняга ўзьбярэжжаў, таксама адасланы шэраг пэтыцыяў у падтрымку свабоды ў Беларусі, праведзены шэраг каар-

***заканчэньне на бачыне 3***

***працяг на бачыне 3***

664_632.qxd 5/30/2021 4:08 AM Page 3 (3,1)



# Раіса СТАНКЕВІЧ

## (23.11.1941 – 15.05.2021)

Пасьля цяжкай і працяглай хваробы 15 траўня 2021 году ў Нью-Ёрку адыйшла ў лепшы сьвет Раіса Станкевіч, дачка Станіслава й Зінаіды Станкевічаў, удзельніца беларускага грамадзкага жыцьця з самога дзяцінства.

Раіса нарадзілася ў Наваградку 23 лістапада 1941 году, з 1944 жыла з бацькамі ў Мюнхэне (Заходняя Нямеччына), вучылася ў мясцовай школе, была прысутная на імпрэзах, куды хадзілі яе бацькі – актыўныя дзеячы беларускай дыяспары.

У 1958 годзе сям'я пераехала ў Злучаныя Штаты Амэрыкі, пасялілася ў Нью-Ёрку. Тут Раіса закончыла школу, College of Saint Teresa (Ўінона, Мінэсота), St. John's University (Нью-Ёрк), а пазьней – Hunter College of New York City University. Яна двойчы стала магістрам – біялягічнай хіміі ды гісторыі.

Біяхімія была яе прафэсіяй, складнікам яе "амэрыканскага жыцьця" (Раіса Станкевіч працавала ў дасьледчай лябараторыі Цэнтру вывучэньня раку – Memorial Sloan Kettering Center). А вось магістарская праца па гісторыі Беларусі пачатку ХХ стагодзьдзя падмацоўвала яе ў грамадзкіх высілках – Раіса была актывісткаю беларускай дыяспары ў Злучаных Штатах Амэрыкі. У розныя гады яна займала адказныя пасады ў такіх грамадзкіх арганізацыях, як Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА), Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскай моладзі (АБАМ), Славянская Харытатыўная Рада, Фундацыя імя Івана Любачкі. Была раднай БНР, сябрам рэдкалегіі газэты "Беларус", старшынём рэдкалегіі часапіса "Беларуская моладзь". Належала да Беларуска-Амэрыканскага Рэспубліканскага Клюбу, арганізавала дзявочы танцавальны гурток.

Раіса Станкевіч па сьмерці бацькоў цесна сябравала з Антонам Шукелойцем і сям'ёю Юлі Андрусышын, шмат часу аддавала гасьцям з Бацькаўшчыны, якія пачалі актыўна прыяжджаць у Злучаныя Штаты пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі. І сама яна таксама шмат падарожнічала па розных краінах; наведала Менск і Вільню.

Цяжкая невылечная хвароба на доўгія гады прыкавала Раісу Станкевіч да ложка, апошнія гадоў дзесяць апекаваліся ёю сябры рады дырэктароў Беларускай Фундацыі імя П. Крачэўскага, найперш Валеры Дворнік – гаспадарчы сакратар. Архівы сям'і Станкевічаў былі перададзеныя на захаваньне ў Фундацыю, дзе яны даступныя для дасьледчыкаў. Фундацыя імя П. Крачэўскага ўзяла на сябе таксама абавязак у будучым даглядаць магілы сям'і Станкевічаў.

18 траўня 2021 году Раісу Станкевіч пахавалі побач з бацькамі ў Іст-Брансўіку (Нью-Джэрзі) на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці (БАПЦ).

Вечная памяць!

***Сябры***

# Беларускі пікнік

***заканчэньне з бачыны 2***

дынацыйных нарадаў прадстаўнікоў беларускіх суполак.

Сп-ня Нортан адзначыла, што сёньня яна выступае фактычна з прэзэнтацыяй новай арганізацыі і дала спасылку на яе сайт ***aba-together.org***.

Затым перад прысутнымі выступіла Ганна Шарко, прадстаўніца суполкі "Беларусы ЗША. Разам Лягчэй". Прамоўца распавяла пра імпрэзы, што ладзяцца ў Нью-Ёрку, у тым ліку пра роварны прабег, што прайшла напярэдадні, і таксама пра канкрэтную акцыю – падтрымку сям'і, якую несправядліва высяляюць зь Беларусі.

Слова таксама ўзяў сп. Кастусь Сіліч, які адмыслова прыехаў зь Лёс-Анджэлесу, і які працуе ў бізнэсе сонечных элемэнтаў. Ён распавёў пра патрэбу каардынацыі і ўзаемнага інфармаваньня беларускіх бізнэсаў у Амэрыцы. Прамоўца таксама адзначыў патрэбу пашырэньня інфармацыі пра беларускія бізнэсы сярод беларускай грамады Амэрыкі, каб свае падтрымлівалі сваіх.




Затым з кароткімі паведамленьнямі пра свае арганізацыі і з плянамі на бліжэйшы час выступілі таксама старшыня БАЗА спня Натальля Федарэнка і старшыня Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка, які прапанаваў увазе прысутных календары і бюлетэнь арганізацыі "Весткі й Паведамленьні". Удзельнікі імпрэзы насалоджваліся файным надвор'ем і мелі добрую нагоду калегавацца зь землякамі ў нефармальных абставінах, заводзіць новыя знаёмствы.

***Віталь ЗАЙКА***

664_632.qxd 5/30/2021 4:07 AM Page 1 (1,2)



# Слоўнік нацыянальнай ідэі

## С - як скарб

Субелліт. Белмова. Б-ч-б. Гэта ня словы беларускага сьвету, а пошасьць зьвязаная з бальшавіцкай маніяй скарачэньняў і ўтварэньня нікому незразумелых абрэвіятураў. Выканкам, раймаг, камсамол, саўгас, БССР, НКВД. Звычайнае зьвядзеньне мовы чалавека да незразумелай балбатні для ўнутранага карыстаньня, распазнаваньня сваіх, тых хто ўмее расшыфроўваць гэтую лухту. У эўрапейскім кантэксце гэтая тэндэнцыя плаўна перайшла ў змаганьне з патрыярхальнай мовай, выдумваньне фэмінітываў, падмена паняцьцяў, насаджваньне выдуманых хвораў галавой канструктаў. Задача – патрыярхальная мова падтрымлівае стэрэатыпнае мысьленьне, таму трэба яе максімальна перайначыць, каб у выніку немагчыма было ня тое што гаварыць пра адзіную праўду (а ў іх праўдаў шмат), а проста і звычайна ўжываць мову згода з яе прыродным прызначэньнем – гаварыць. X-mass, LGBTQ..., transgender, women of color, manspreading, sexism і іншыя "ізмы" – чыста бальшавіцкая спадчына. У беларускую гэтае шумавіньне, без выключэньня, трапляе не з ангельскай ці францускай, а транзытам, праз расейскую мову, не без дапамогі мясцовых адэптаў навамовы. Некамільфо, імха, маветон і інш. Калі вы гаворыце "на мове" – то таксама далучаецеся да каляніяльнага бачаньня сьвету – гаворыце, быццам, па-беларуску, а думаеце па-бальшавіцку.

**_Віталь ВОРАНАЎ_**

# Навукова-літаратурная студыя "Беларуская Цьвярдыня"

Ад 2013 году Таварыства "Опір Західної України" цесна супрацоўнічае зь беларускай дыяспарай у ЗША і Чэскай Рэспубліцы, якое найбольш праяўляецца ў навуцы, літаратуры, мове, вывучэньні гісторыі і культуры абодвух народаў – украінцаў і беларусаў.

Цягам 2013-2021 гг. Таварыствам "Опір Західної України" надрукавана шмат разнастайных публікацый ва ўкраінскіх і беларускіх рэгіянальных, рэспубліканскіх, міжнародных і дыяспарных бюлетэнях, газэтах, часапісах, літаратурных альманахах, зборніках з навуковых канфэрэнцый, якія захоўваюцца ў фондах Таварыства. У будучыні гэтыя зборы будуць перададзеныя на захоўваньне ў заснаваны ў 2018 годзе ва Ўкраіне Музей-сядзібу сям'і Байдунікаў ім. Т. Байдуніка.

У 2021 годзе Таварыства "Опір Західної України" заснавала навукова-літаратурную студыю "Беларуская Цьвярдыня", якая сабрала і ўпарадкавала навукова-літаратурныя напрацоўкі Таварыства ў кантэксце ўкраінска-беларускіх культурных узаемаадносінаў.

На вэб-сайце "Беларуская Цьвярдыня" гэтыя матэрыялы ўпарадкаваныя і даступныя для вывучэньня навукоўцамі, пісьменьнікамі і ўсімі жадаючымі дасьледчыкамі ўкраінска-беларускіх навуковых, літаратурных, моўных, гістарычных і культурных узаемаадносінаў.

Запрашаем азнаёміцца з вэб-сайтам навукова-літаратурнай студыі "Беларуская Цьвярдыня" па спасылцы: ***www.bilorusy.jimdofree.com***

***Алег ПАЎЛІЎ***

*Адмыслова для "Вестак і Паведамленьняў"*

### Уплаты ў Згуртаваньне

**Складкі й ахвяраваньні:**

**В. Чарняк ................60**

**Шчыры дзякуй!**

### Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" *Viktar Yedzinovich*.**

### Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мераприемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем "Пагоня", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

**Я. Кацярыніч ............30**
**В. Чарняк ................30**

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас рэдакцыі:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich.***